РЭГІЁН

## У кішэнях пуста

**Толькі горкае расчараванне выклікаюць у многіх жыхароў Шаркоўшчынскага раёна афіцыйныя паведамленні аб пераадоленні сярэдняй зарплатай у краіне рубяжа 100 долараў.**

Такія грошы ў гэтай мясцовасці зарабляюць адзінкі. Згодна са статыстычнымі данымі нават у месяц прэзідэнцкіх выбараў сярэдні заробак па раёне быў налічаны ў памеры 89.194 рублі і адставаў ад аналагічнага ў краіне на 52.100 рублёў. Больш-менш маглі быць задаволены жыццём толькі работнікі органаў дзяржкіравання і сувязісты, якія зарабілі на жыццё адпаведна па 151.127 і 149.814 рублёў. На процілеглым месцы, як заўсёды, працаўнікі вёскі — 68.019, медыкі — 86.815 і нават работнікі прамысловасці — 88.454 рублі, чые даходы па афіцыйным курсе Нацбанка склалі 46—59 у.а. Паколькі ў людзей мала грошай, у грашовым абарачэнні раёна склаўся адмоўны эмісійны вынік у суме 3,2 мільярда рублёў.

## Дзеля ўмацавання веры

**Упершыню ў гісторыі Беларусі на другім годзе дзейнасці Віцебскай каталіцкай дыяцэзіі ў кафедральным касцёле св.Барбары днямі прайшла ўрачыстасць інсталяцыі (прадстаўлення).**

Згодна з дэкрэтам Папы Рымскага, пры епархіі створаны калектыўны орган кіравання — кафедральны капітул з 12 святароў. Адраджэнне хрысціянскай веры ў рэгіёне ідзе надзвычай дынамічна, і сёння ў вобласці зарэгістраваны 81 каталіцкі прыход з 405, якія дзейнічаюць у краіне. Усё больш набажэнстваў у храмах вядуцца на беларускай мове. На прайшоўшай цырымоніі акрамя прадстаўнікоў усіх парафій удзельнічалі госці з Польшчы, Германіі, Англіі, а святочная літургія суправаджалася ўзнёслымі спевамі хору "Глорыя" сталічнай катэдры найсвяцейшай Дзевы Марыі.

## Урач без лекаў варты жалю

**Далейшыя перспектывы развіцця айчыннай сістэмы аховы здароўя былі абмеркаваны на прайшоўшым у Пастаўскім раёне рэспубліканскім семінары.**

Тут у ліку першых у краіне ва ўсіх сельскіх бальніцах і амбулаторыях лечаць насельніцтва ўрачы агульнай практыкі, актыўна дзейнічаюць шматпрофільныя дзённыя стацыянары. У наступным годзе падобны эксперымент па адпрацоўцы новага механізму гаспадарання распаўсюдзіцца на ўсе ўстановы аховы здароўя вобласці і на шэраг асобных раёнаў па ўсёй краіне, дамовіліся ўдзельнікі семінара. Аднак, як бы ні былі падрыхтаваны спецыялісты, усе іх жаданні добра працаваць могуць не спраўдзіцца. Бальніцы вобласці завінаваціліся Віцебскаму гандлёва-вытворчаму прадпрыемству "Фармацыя" за адпушчаныя лекі больш як 700 мільёнаў рублёў, з якіх 437 млн. — доўг клінік абласнога цэнтра. На далейшы закуп медыкаментаў у вытворцаў грошай няма, а грашовая выручка ў аптэках Віцебшчыны малая, бо насельніцтва не ў стане купляць дарагія лякарствы.

## А ў нас у хаце — газ

**З прыходам у Докшыцкае раённае прадпрыемства газавай гаспадаркі новага дырэктара Іосіфа Падрэза тут не толькі правялі рэканструкцыю, запусцілі новую аўтаматызаваную кацельню, але і паклапаціліся поўнасцю ўзяць на абслугоўванне сваіх абанентаў у глыбінцы.**

Раней гэтым займаліся газавікі калгасаў і саўгасаў і не заўсёды аператыўна. Падрыхтоўчая праца заняла больш за год, затое сёння кожны з 15.175 абанентаў ведае, што праблем з заменай газавых балонаў больш не будзе. Дастаткова толькі патэлефанаваць у райгаз, і дыспетчар паведаміць, у які дзень тыдня па зацверджаным графіку па месцы жыхарства з'явяцца спецыялісты і зробяць замену балона. Да зручнага "блакітнага" паліва вяскоўцы прывыклі і зараз вельмі рады, што частка бытавых нязручнасцей адпала.

**Уладзімір ШЫК.**

## И стихи, и проза...

Поэтическим творениям коллег посвятили очередную встречу члены клуба ветеранов белорусской журналистики. Со стихами, а также юморесками и афоризмами выступили Александр Суслов, Михаил Шибалис, Георгий Синякович, Лариса Серебрянок, Дмитрий Рыбаков. Заместитель председателя Белорусской ассоциации журналистов Анатолий Гуляев рассказал о проблемах, с которыми сталкивается негосударственная пресса в стране, поделился впечатлениями о недавней поездке на Полесье.

В ближайшей встрече члены клуба намерены обсудить новые книги известного журналиста Александра Симурова "Ностальгия" и "Автографы".

**В.ПЕТРУКОВИЧ.**

ЖУРНАЛИСТСКОЕ РАССЛЕДОВАНИЕ

# Кто положил глаз на МАЗ?

## "Сибал" приценивается не только к МАЗу, но и к Минскому моторному, Борисовскому БАТЭ, Минскому подшипниковому заводам

*(Окончание. Начало в № 222.)*

В Москве уже состоялись предварительные переговоры руководства подшипникового завода с менеджерами "Сибала". И хотя минские участники встречи говорят о том, что пока рано говорить о каких-то конкретных договоренностях, независимые эксперты сходятся во мнении, что у Минского завода уже нет альтернативы.

В России заметно возрождение подшипниковой отрасли, причем на новом современном уровне. Здесь создается крупная подшипниковая корпорация, интересы которой распространяются на всю Восточную Европу. Большие вливания капиталов позволяют ей уже в ближайшее время выйти на качественно новый уровень производства. Так что минские подшипники могут вскоре вообще не понадобиться. Минскому подшипниковому заводу предстоит бороться уже не за собственное выживание, а за то, чтобы пролезть под крыло российского холдинга.

Российские "Известия RU" сообщают, что Белорусский шинный комбинат "Белшина" также может быть акционирован с участием одного из лидеров российского шинного бизнеса — холдинга "Амтел". Его руководство направило свои предложения Александру Лукашенко. При этом оно оговаривает, что если будет разрешено акционирование, то холдинг намерен приобрести 51 процент акций, то есть контрольный пакет.

Белорусская сторона, сообщает тот же источник, готова принять эти предложения, ибо рискует потерять традиционные рынки сбыта.

Проявляют интерес к "Белшине" российское ОАО "Славшина" и коммерческий банк "Авангард". Кстати, последний возглавляет советник председателя российской Госдумы Кирилл Миновалов. А известно, какие хорошие отношения между Селезневым и Лукашенко. Этот факт, видимо, проливает определенный свет и на частые визиты Селезнева в Беларусь.

В свое время господин Миновалов был принят Лукашенко, и были достигнуты устные договоренности по "Белшине". Если верить сообщениям прессы, то "Авангард" был готов предоставить "Белшине" выгодный кредит, но при этом рассчитывал на то, что вся ее продукция будет принадлежать "Славшине". Белорусская сторона почему-то не приняла эти условия.

Растет интерес к белорусским льнопроизводителям и льнопереработчикам. В Москве создана ассоциация льнопроизводителей и льнопереработчиков России и Беларуси. Как сообщил вице-президент концерна "Беллегпром" Викентий Адамович, прорабатываются подходы по созданию транснациональной совместной промышленно-финансовой группы.

Настойчивость российских бизнесменов к проталкиванию этого проекта понятна. Ведь за последние 10 лет поставка белорусских льняных изделий на западные рынки возросла в 13 раз. Вопрос о том, какая выгода ждет нас в случае объединения с российским партнерами? И есть ли нужда в нем при столь успешном продвижении нашей продукции на мировом рынке?

Судьбоносные решения принимаются за закрытыми дверями, в узком кругу, без всестороннего обсуждения даже в среде специалистов. Ведь эти вопросы официально не обсуждались ни в научно-промышленной ассоциации, ни в конфедерации промышленников и предпринимателей, ни в клубе директоров.

Есть ли у наших предприятий иная альтернатива? Вначале следует заметить, что она была. И неплохая. Тот же подшипниковый завод вел переговоры со шведской фирмой SKF — одной из ведущих мировых производителей подшипников. Уже почти договорились о создании совместного предприятия. Но, насмотревшись на наши реалии и экономические, и политические, шведские специалисты "помахали ручкой" и стали работать на российском рынке, где условия получше.

*Такой автомобиль создан на Минском подшипниковом заводе. Ему не страшно любое бездорожье.*

**Фото IREX/ProMedia.**

Такое же разочарование постигло и минских тракторозаводцев. В течение нескольких последних лет МТЗ вел переговоры о создании совместного предприятия с американским концерном сельскохозяйственного машиностроения. Проект был близок к завершению, но уход "Форда" с белорусского рынка и ухудшение белорусско-американских отношений привели к тому, что партнер из США приостановил реализацию многообещающего проекта.

Да, западный инвестор к нам не спешит. И даже те маленькие надежды, которые еще теплятся в некоторых, тают, как июльский снег, после очередных выступлений белорусских лидеров. Вы только вслушайтесь в то, что они говорят. Они хотят, чтобы зарубежные инвесторы и производство модернизировали, и в социальные программы вкладывали деньги... Простите, но где же найти таких дураков?

Представьте, у вас есть пара миллионов долларов и вы рассуждаете, куда повыгоднее их вложить. Да-да, повыгоднее. А как же иначе? И вот вы слышите выступление лидера, скажем, того же Афганистана, который, ссылаясь на трудности своей страны, предлагает в качестве платы за пропуск на его рынок, дать деньги на строительство больниц, школ. Скажите, только откровенно, вы будете жертвовать туда свои средства ради возможности заниматься там бизнесом? Вот то-то!

Решение социальных проблем Беларуси — это дело белорусских властей, а не западных инвесторов. Пора понять простую истину. Если мы хотим, чтобы к нам пришли западные инвесторы со своими капиталами, то мы должны создать у себя для них лучшие условия, чем они имеют у наших соседей. Иначе, какой им смысл двигаться оттуда к нам? Это не только мое мнение. Такой же точки зрения придерживаются специалисты Белорусской конфедерации промышленников и предпринимателей, Белорусской научно-промышленной ассоциации. В своих предложениях властям они записали: "Необходимо создание более благоприятного инвестиционного климата, чем в окружающих нас (сопредельных) странах (России, Польше, Литве, Латвии, Украине). В противном случае инвестиции не только не придут в Беларусь, но и будет продолжаться отток капиталов из страны".

Привлечение западных капиталов — наш последний и единственный шанс для спасения промышленности и экономики в целом. Он еще есть: не входить бедными родственниками в российские холдинги, а создавать свои. Почему бы, допустим, не создать свою финансово-промышленную группу "Белорусский лен"? Наши изделия из льна популярны на Западе, есть там рынки сбыта. Можно создать свой холдинг "Белорусский трактор", автомобильный — "Зубр". Тракторы с минской маркой покупают около 50 стран. МТЗ входит в семерку самых крупных мировых экспортеров тракторов. Зачем же этих "несушек золотых яиц" сдавать российским олигархам за бесценок?

Говорите, а где взять деньги для их технического обновления? На ваш вопрос отвечаю вопросом: из чего вы взяли, что Россия — самый богатый инвестор. Она сама не меньше нас нуждается в притоке капиталов.

Взять деньги можно только у того, кто много их имеет, то есть у западного инвестора. Идея создания белорусских холдингов и промышленно-финансовых групп не новая. Лет пять тому белорусскую индустрию изучали высококвалифицированные эксперты и менеджеры из Германии, Англии, Франции и других европейских стран. Они рекомендовали создать белорусские промышленные группы по выпуску тракторов, автомобилей, станков, телевизоров и т.д. Эксперты предложили и меры по привлечению западных инвесторов. Расчеты европейских специалистов показывали, что наши холдинги могли бы стать ведущими в Восточной Европе.

Рассказывая тогда об этом в "Народной воле", я делал вывод, что судьбоносные предложения скорее всего не будут реализованы по политическим соображениям. Так оно и получилось. Был упущен важный шанс.

Вернуться к этой идее не поздно. Она все еще жива среди производственников. Правда, рассчитывать на те результаты, которые можно было бы получать ранее, уже не приходится. Лучшее время реализации идеи безвозвратно упущено.

Как же заманить западных инвесторов? Приведу один любопытный пример. В немецкой земле Шлезвиг-Гольштейн меня познакомили с одной общиной, кстати, самой богатой в здешних краях. Находится она на берегу моря, земли у нее далеко не лучшие. Как же она разбогатела? Да очень просто.

Как-то, рассуждая о своих довольно скромных доходах, жители общины пришли к довольно неординарному решению: не брать местные налоги с тех бизнесменов, которые откроют здесь свое дело. Что получилось? Деловые люди со всей округи рванули сюда, ведь не надо платить налоги в местный бюджет. Правда, они платили небольшие налоги за аренду земли и зданий. Налоги-то небольшие, но поскольку здесь прописалось огромное количество бизнесменов, то община в одночасье стала самой богатой в замке Шлезвиг-Гольштейн.

Вот вам наглядный урок решения инвестиционных проблем.

**Алесь ДРАБЧУК.**

АСОБА

# Ён продкаў спадчыну трымае, Краіну нашу праслаўляе, —

## трапна сказаў народны паэт-самародак Анатоль Кісель пра другога яркага і самабытнага творцу Міколу Котава — балетмайстра, пастаноўшчыка і выканаўцу непаўторных узораў фальклорнай харэаграфіі

Калі гляджу, як ён і зараз, у свае 60, танцуе ці то на сцэне, ці ў памяшканні нашай навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору Белдзяржуніверсітэта, дзе мы разам працуем, не верыцца, што перад табой даўно ўжо не юнак, а ветэран народнай творчасці. Ветэран з вечна няўрымслівай, юначай душой.

Калі ўявіць сабе ўсе пляцоўкі, дзе Мікола танцаваў то беларускую польку, то шматлікія абрадавыя скокі, рускія, украінскія ці цыганскія танцы, то іх, відаць, набярэцца ўжо не адна тысяча. І не толькі на Беларусі, але і ў Расіі, Украіне, Польшчы, Чэхаславакіі, Германіі, Югаславіі, Эфіопіі, а ў апошнія гады падчас неаднаразовых падарожжаў з нашымі музыкамі па штату Нью-Джэрсі ў ЗША. Там склаліся добрыя творчыя сувязі з беларуска-амерыканскім цэнтрам у Саўт-Рыверы, дзе паўнакроўным нацыянальным жыццём з роднымі песняй, музыкай, святамі жывуць нашы суайчыннікі. Былі выступленні і на нью-йоркскім Брадвеі, і на Брайтан-Біч.

...Дарогу ў народнае мастацтва далі Міколу яго маці Параска, родная рэчыцкая зямля, уражанні маленства са спеўнымі калыханкамі ды рознымі дзіцячымі забаўлянкамі-прадстаўленнямі.

Яго палескі край, дзе ўжо гучаў на поўны голас выдатны Азершчынскі народны хор Кандрата і Таццяны Лапацiных, як і танцавальны гурток Эдуарда Сцяпанчанкі, у многім сфарміравалі жывога, непаседнага танцора-скакуна Міколку, якім ён застаўся да сённяшняга паважанага ўзросту. Бачыць яго ў танцы — не нацешыцца радасцю.

Харэаграфічнай навукай для Котава былі заняткі пры Гомельскім абласным доме народнай творчасці, як і яркі прыклад знакамітага ансамбля танца Рыбальчанкі ў Гомелі, а блізка да нашага часу яшчэ і унікальнага фальклорнага тэатра "Жалейка" Міколы Макарцова — бліжэйшага аднадумца Котава. Надзвычай многа значыла для яго мастацкага станаўлення сустрэча ў 60-х са старажытнай Тураўскай зямлёй. Тут дваццаць пяць гадоў запар ён запісваў, даследаваў і ўвасабляў на сцэне харэаграфічную культуру нашчадкаў златавуснага прамоўцы Кірылы Тураўскага. І здаецца сімвалічным, што ён цяпер працуе ў Белдзяржуніверсітэце, у скверы якога нядаўна побач з другімі вялікімі асветнікамі Беларусі паўстаў помнік Кірылу Тураўскаму.

То былі гады ўдумлівага перанясення фальклорных жамчужын іх у як мага больш натуральным, але ўпрыгожаным уласным творчым бачаннем выглядзе на сцэну. Ён стварае вядомыя харэаграфічныя калектывы "Прыпяць" у Тураве, "Верасок" у вёсцы Верасніца Жыткавіцкага раёна, "Ніва" ў вёсцы Рамель Столінскага раёна.

І цяпер на Палессі шмат непаўторных фальклорных калектываў — у Пагосце, Запясоччы, Пухаўшчыне, Хільчыцах, Перароўскім Млынку, Хваенску, Рычове, Слепцах, Чэрнічах, Азяранах і інш.

Калі я пачаў падлічваць, з якіх рэгіёнаў найбольш фальклорных калектываў бралі ўдзел у самай даўгавечнай, 25-гадовай фальклорнай праграме Беларускага тэлебачання "Запрашаем на вячоркі", незраўнаным чэмпіёнам (дваццаць унікальных абрадава-святочных праграм!) аказалася менавіта тураўская зямля. У значнай ступені да гэтага спрычынілася неўтаймаваная творчая энергія Міколы Котава. Ён наследаваў запаветы вялікіх беларусаў XX стагоддзя Рыгора Шырмы і Генадзя Цітовіча: не толькі збіраць скарбы народнага краю, але і думаць, як іх вярнуць у паўсядзённае жыццё ў як мага больш прыгожым выглядзе.

З прыездам у Мінск знаўца народных танцаў запрашаецца для інсцэніровак назапашаных фальклорных твораў у прафесійныя калектывы і ВНУ: Дзяржаўны Народны хор, дзяржаўным ансамбль народнай музыкі "Свята", тэатры імя Янкі Купалы ў Мінску і Якуба Коласа ў Віцебску, Акадэмію мастацтва і Беларускі універсітэт культуры.

У апошнія дзесяцігоддзі Котаў стварыў нямала дзіцячых фальклорных калектываў і тэатраў у Мінску і па ўсёй Беларусі. Асаблівым клопатам яго быў удзел у падрыхтоўцы радыё- і тэлеперадач "Запрашаем на вячоркі" і "Фальклор", а сёння — праца з дзіцячым фальклорным тэатрам "Бераг белых буслоў" у Буда-Кашалёве. З ім ён неаднаразова выязджаў у Германію з высакароднай мэтай збору сродкаў на лячэнне дзяцей з чарнобыльскага рэгіёна.

Цудоўны майстар народнага танца Мікола Котаў, сустракаючы свой 60-гадовы юбілей, знаходзіцца ў зеніце творчых сіл. Зараз ён аддае шмат сіл стварэнню Нацыянальнага ансамбля фальклору ў творчым хаўрусе з заслужаным дзеячам мастацтваў Беларусі Міколам Сіратой і прафесарам-фальклaрыстам Алегам Аляхновічам. Многа ўвагі ўдзяляе і працы ў Беларускім універсітэце культуры, выпускніком рэжысёрскага аддзялення якога сам з'яўляецца. Упэўнены, што мы яшчэ пабачым грунтоўнае даследаванне народнага танца беларусаў, над якім Котаў цяпер працуе.

Шчыра зычу табе, Мікола, доўгіх год творчага жыцця і мастацкага натхнення!

**Васіль ЛІЦВІНКА,**
**загадчык навукова-даследчай лабараторыі беларускага фальклору Белдзяржуніверсітэта.**

**На здымку:** *на абсягах Еўропы.*

БЕСПРЕДЕЛ

# "Не съем, так надкусаю..."

Вынесенная в заголовок поговорка очень точно определяет отношение белорусского государства к независимым средствам массовой информации. Руководствуясь грозным обещанием А.Лукашенко "разобраться" после выборов с теми СМИ, которые осмелились критиковать режим, местные чиновники от "вертикали" делают все, чтобы максимально отравить существование негосударственной прессы, приблизить окончательную расправу с неугодными власти журналистскими коллективами.

Постоянно, раз за разом, "надкусывают" госструктуры популярную частную газету "Витебский курьер". На ней тренируют свои челюсти все, кому не лень: типография и "Союзпечать", налоговые и финансовые органы, идеологические службы "вертикали"... По мере сил ставит "Курьеру" подножки и такой незыблемый монополист, как предприятие "Витебскоблпочта", у которого с газетой подписан договор: почтовики обязались, получая от подписчиков "Курьера" деньги за очередной период, перечислять их на банковский счет редакции. В свою очередь, редакция должна исправно платить почте за экспедирование и доставку тиража.

Свою часть двустороннего договора "Курьер" старается соблюдать неукоснительно. Ведь в ответ почтовики могут прекратить доставку газеты. И тогда "Витебский курьер" лишится подписчиков, ради которых и на деньги которых, собственно, и существует.

А вот "Витебскоблпочта" уже не раз срывала выполнение своих финансовых обязательств. По договору почтовики должны переводить редакции деньги подписчиков до 10 числа первого подписного месяца. В этом году они дважды опоздали это сделать: первый раз — в июле (задержали деньги за подписку на полугодие), второй — в октябре (за подписку на последний квартал).

Целый месяц, начиная с 10 октября, "Курьер" сидел, что называется, на бобах, ожидая свои честно заработанные шесть миллионов рублей, которые "Витебскоблпочта" получила от подписчиков своевременно, еще 25 сентября. Редакция оказалась в трудном положении. Не удалось в удобный срок закупить бумагу, оплатить услуги типографии, произошла непредвиденная задержка с выдачей зарплаты сотрудникам. На неоднократные напоминания директор почтового предприятия Николай Смунев отвечал, что не может рассчитаться с редакцией потому, что не получил деньги за ведомственную подписку от Витебского государственного медицинского университета. "Я на него в суд подам!" — даже пообещал в сердцах Смунев, имея в виду ректора медвуза А.Косинца, который, дескать, учинил слишком обширную и дорогую подписку (на 14 миллионов рублей!), а денег не отдает. Тут вроде бы можно Смуневу и посочувствовать. Его, дескать, подвели, вот и он подводит. Но Николай Романович лукавил, сочиняя отговорку. Ведь его предприятие обычно требует у ведомственных подписчиков (и учреждений, и организаций) предоплату. Почему бы не применять этот порядок и к медуниверситету? Тогда почтовики получили бы 14 миллионов заблаговременно. И с редакциями газет рассчитались бы без проблем, и о суде с А.Косинцом не надо было бы думать.

Но не решился Н.Смунев умерить подписной аппетит медвуза и распространить на него общее правило. Дело в том, что подписка оформлялась в период президентских выборов, а А.Косинец был не только ректором, но и доверенным лицом А.Лукашенко на Витебщине.

Вот почтовики и постеснялись тревожить предоплатой столь важную персону. Потому и навыписывал медуниверситет уйму периодики, в том числе — российской, цены на которую уже стали запредельными. Да и то, что медвуз тянул с расчетом, никак не должно было повлиять на перечисление денег "Витебскому курьеру", к которому ведомственная подписка отношения не имеет. "Курьер" живет в основном на средства от индивидуальной подписки (80 процентов ее приходится на частных лиц). Руководство многих предприятий и организаций просто боится выписывать негосударственное издание (даже очень им интересуясь).

Поэтому Н.Смуневу ничто не мешало перевести на счет газеты полученные от ее подписчиков деньги, не дожидаясь милости от А.Косинца. Но директор "Витебскоблпочты", как истинный государственный муж, откладывая расчет с "Курьером", предпочел потратить его кровные деньги на другие цели. Первым делом почтовики перечислили деньги за подписку местным государственным газетам, чтобы содержать их финансовое положение и, не дай Бог, не спровоцировать срыв их выхода. Зато о том, как будет жить без денег наиболее аккуратный партнер — "Витебский курьер", — Н.Смунев не подумал. Потому что знал: за подножку независимой газете никто не пожурит и с работы не снимет. Скорее, еще "спасибо" прозвучит "сверху" за неприятности, устроенные независимой газете.

Вот и получилось, что "Курьер" со своими подписчиками стал невольным донором государственных печатных изданий, которые и без того щедро подпитываются из бюджета, то есть — из средств налогоплательщиков, включая и читателей других независимых газет.

Лишь через месяц после установленного договором срока "Витебскоблпочта" перечислила "Курьеру" долг за подписку, да и то не весь, а только две трети полученной от читателей суммы. Остаток пришлось ждать еще много времени. И это при постоянной инфляции, непрерывном росте цен на бумагу, полиграфуслуги и т.д.

Своим пренебрежением к взаиморасчетам почтовое предприятие нарушило не только деловой договор с партнером, но и Конституцию Республики Беларусь, 13-я статья которой гарантирует равные условия хозяйствования для субъектов всех форм собственности. "Витебскоблпочта" лишний раз подтвердила, что все негосударственное у нас — вне закона. Зная это, каждый госчиновник считает своим долгом "надкусывать" независимую прессу. Вплоть до ее полного съедения.

**Сергей БУТКЕВИЧ,**
**заместитель председателя Витебского отделения БАЖ.**

РЭХА

# Масюк дзеянні АМАПа ў Курапатах не асуджаў

**10 лістапада ў артыкуле "Карнікі ў Курапатах" мы расказалі, як байцы АМАПа правялі спецаперацыю па "зачыстцы моладзі", якая абараняла Курапаты. Як вядома, будаўнікі пашыраюць там Мінскую кальцавую аўтадарогу. Прэс-сакратар грамадзянскай ініцыятывы "За ўратаванне Курапатаў" Сяргей САХАРАЎ расказаў пра сваю сустрэчу з намеснікам генеральнага дырэктара прадпрыемства "МагістральАўтадар" Юрыем МАСЮКОМ.**

Прыводзім словы Сахарава: *"Спадар Масюк, у прынцыпе, разумее нашу пазіцыю. Ён таксама прысутнічаў падчас "самадзейнасці" АМАПа і не падтрымлівае ў прыватных размовах яго незаконныя дзеянні. Ён пацвердзіў, што неабходна ўстанавіць спецыяльную дэмаркацыйную мяжу 15 метраў, за якую не павінны заязджаць бульдозеры. Масюк таксама заявіў, што можа быць перагледжана праектная дакументацыя па будаўніцтве шашы — у адпаведнасці з патрабаваннямі грамадскасці..."*

Мы атрымалі ліст з "МагістральАўтадара", у якім Юрый Станіслававіч абвяргае словы Сахарава: "Опубликованная информация не соответствует действительности по следующим основаниям: во-первых, гр. Сахаров только присутствовал при моей встрече с гр. Жихарь И., мне не представлялся и участия в разговоре не принимал; во-вторых, в Вашей статье со слов Сахарова полностью искажен смысл сказанного мною.

Во время разговора я не давал оценки действиям ОМОНа. При обсуждении вопроса об установлении специальной демаркационной границы речь шла о том, что данную границу не должна нарушать ни одна из сторон, поскольку отношения сторон должны строиться на основе цивилизованного диалога. Также не было речи и об изменении проектно-сметной документации в соответствии с требованиями общественности. Вопрос обсуждался в части устройства пешеходных переходов, стоянок автотранспорта, пешеходных дорожек в районе Куропат в зоне производства работ в пределах проектной документации".

**Мікола БУСЕЛ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

